«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№1(23) январь 2012

# СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК І ГЕОРГІЙ ЛІХТАРОВІЧ ВЫСТУПІЛІ Ў ГЕРМАНАВІЧАХ

У літаратурную гасцёўню культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча часта запрашаюцца - беларускія паэты, пісьменнікі і барды. І кожная такая сустрэча пакідае вялікі след у душы кожнага, хто бывае на нашых літаратурных імпрэзах. І кожны раз пераконваешся ў невычэрпнасці крыніц народнага таленту.

Нядаўна гасцямі культурна-асветніцкага цэнтра былі паэты-песеннікі Сяргей Панізнік і Георгій Ліхтаровіч. Яны мае старыя сябры… Георгій - мастак , фотамастак, паэт. Ён пастаянны ўдзельнік драздовіцкіх пленэраў. Даўно падараваў мне свой паэтычны зборнік "Ліхтарыкі". Зараз прывёз свой новы зборнік. Паэт чытаў свае вершы. Расказваў пра цікавыя гісторыі са свайго жыцця. Расказаў пра сваё знаёмства са спеваком і кампазітарам Барысам Вайханскім, з якім у яго моцнае творчае супрацоўніцтва. Барыс паклаў на музыку вершы Георгія - спевы праслухалі ў запісе.





**Георгій Ліхтаровіч (злева) і Сяргей Панізнік**

Сяргей Панізнік наведаў Германавічы другі раз. Першы раз я запрасіла яго на школьную вераснёўскую лінейку, на якой ніводнанага слова не прагучала на беларускай мове. Мне было вельмі сорамна перад ім, калі ён запытаў: "Ада, у якой краіне мы зараз?"

Мы з Сяргеем калегі - этнографы. На Мёршчыне вядомы яго этнаграфічны музей "Хата бабкі Параскі". Ён і Георгі былі прыемна здзіўлены нашым літаратурна-мастацкім музеем. Госці прывезлі цікавыя падарункі для яго. Падаравалі дыск "Арэлі. Сяргей Панізнік у вершах і песнях", дзе змешчаны песні, напісаныя на вершы паэта, народныя песні, вясковыя інструментальныя ансамблі.

І тут на мяне нахлынулі ўспаміны: калісьці і я кіравала такім ансамблем ў Германавічах. Былі у нас дзе скрыпкі, балалайка, мандаліна, цымбалы, бубен, гармонік. З канцэртамі мы аб'ездзілі палову вобласці. Але ўсё гэта ў мінулым. Пайшлі з жыцця музыкі, і толькі частка інструментаў захоўваецца ў музеі, як напамін аб былой славе.

На дыску запісаны дзве полькі. Адна з іх так і называецца "Полька на лён". Беларуская полька - самы цудоўны танец. Шкада, што развучыліся яе танцаваць па –сапраўднаму. У кожнай мясцовасці была свая полька: грыблоўская, вендзялоўская г.д. А "Полька на лён"—гэта апошні танец на вечарыне. Даўней не было музычных школ, а музыкі былі у кожнай вёсцы. Зараз ёсць музычныя школы і няма музыкаў. А вельмі шкада! Маё пакаленне жыло весялей!

Сяргей Панізнік — хадзячая краязнаўчая энцыклапедыя. Калі я сказала яму, што мяне цікавіць асоба Эміліі Плятар, ён прывёз мне матэрыялы пра яе. Ведаючы, што цікаўлюся беларускім спеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім (ён з ім сустракаўся, калі савецкія войскі душылі паўстанне ў Чэхаславакіі. Сяргей тады служыў у войску),прывёз дыск з выступленнем спевака. Упершыню ўдзельнікі імпрэзы пачулі голас любімай паэткі Ларысы Геніюш.

Падараваў ён матэрыял для выставы, прысвечанай юбілею Максіма Багдановіча, які я перадала мясцовай школе.

Вось такія сустрэчы—гэта свята душы. Сябры культурна –асветніцкага цэнтра заўжды з удзячнасцю успамінаюць усе сустрэчы у нашай літаратурнай гасцёўні, бо яны не толькі пашыраюць кругагляд, але і эмацыйна ўздзейнічаюць на кожнага.

*Ада Райгонак*

# ПРЭС-КАНФЭРЭНЦЫЯ КІРАЎНІЦТВА ПАРТЫІ БНФ

**23 сьнежня прайшла прэс-канфэрэнцыя кіраўніцтва Партыі БНФ**

23 сьнежня на сядзібе Партыі БНФ адбылася прэсавая канфэрэнцыя кіраўніцтва, якая была прысьвечаная рэакцыі Партыі БНФ на падзеі, якія адбываюцца ў Казахстане і ў зьвязку з плянаваным Эўразійскім саюзам паміж Беларусьсю, Расеяй і Казахстанам.

Быў агучаны пратэст супраць дзеяньняў сілавікоў Казахстана, якія 16 сьнежня ўжылі зброю супраць мітынгоўцаў у Жанаазэне, што прывяло да гібелі пратэстоўцаў, таксама кіраўніцтва Партыі зьвярнула ўвагу на тое, што дзеяньні дзяржаўных сілавых структураў у Казахстане могуць стацца мадэльлю паводзінаў і для беларускіх сілавікоў у будучыні ў тым выпадку, калі Эўразійскі саюз здолее стацца рэчаіснасьцю.

Старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч** нагадаў, што яшчэ ў лістападзе 2011 году Сойм Партыі БНФ прыняў рашэньне распачаць кампанію супраць уступленьня Беларусі ў Эўразійскі зьвяз і за выхад з усіх наддзяржаўных утварэньняў з удзелам Расеі, якая разглядае іх як аднаўленьне Расейскай Імпэрыі, што супярэчыць нацыянальным інтарэсам Беларусі. Кампанія супраць Эўразійскага саюзу распачалася заявай, ужо падрыхтаваная першая ўлётка "Беларусь не павінна зьнікнуць у Эўразійскім саюзе", дзе прыводзяцца факты, якія сьведчаць што ужо ад самага моманут, калі былі падпісаныя першыя пагадненьні, узровень жыцьця беларусаў упаў, узровень бяспекі беларусаў абнізіўся, узровень упэўненасьці ў заўтрашнім дні таксама істотна зьнізіўся. То бок, мы ўжо маем негатыўныя вынікі супрацоўніцтва і ўступленьня Беларусі ў Мытны саюз з Расеяй і Казахстанам.

Намесьнік старшыні Партыі БНФ **Ігар Лялькоў** абвесьціў аб падачы заяўкі на пікет каля амбасады Казахстана, і падкрэсьліў, што гэта першае масавае мерапрыемства, якое фронтаўцы будуць спрабаваць правесьці згодна з нормамі зьмененага закону аб масавых мерапрыемствах, што станецца своеасаблівым тэстам для ўлады: ці прыняцьцё гэтага закону азначае ўвогуле пазбаўленьне усякай легальнай магчымасьці масавых мерапрыемстваў у Беларусі, ці ўсё ж такі, калі пікет будзе дазволены і праведзены без інцыдэнтаў, будзе азначаць, што ячшэ існуюць магчымасьці для пратэстных мерапрыемстваў застаюцца ў Беларусі.

# СКОБЛА І МАТАФОНАВА ВЫСТУПІЛІ Ў ГЕРМАНАВІЧАХ

У культурна-асветніцкім цэнтры імя Язэпа Драздовіча ў Германавічах 5 лістапада адбылася літаратурная вечарына.

Перад прыхільнікамі беларускай паэзіі выступілі таленавіты паэт і празаік Міхась Скобла і бардэса Тацяна Матафонава.

Міхась Скобла чытаў свае вершы і расказваў гісторыю іх стварэння. А гэтыя гісторыі настолькі запомніліся, што і на наступны дзень абмяркоўваліся ўдзельнікамі імпрэзы.

Уразіла гісторыя стварэння верша "Ода баразне": паехаў паэт дапамагаць бацькам капаць бульбу. Бульбяны палетак быў вялікі, на некалькі кіламетраў. На ім, як мурашкі, шчыравалі людзі рознага ўзросту. За бульбяным палеткам , у ляску, знаходзілася сховішча старых боепрыпасаў. І раптам яны рванулі. Слуп агню ўзняўся над лесам ,і ў розныя канцы паляцелі асколкі. Нягледзячы на смяротныя абставіны, людзі працягвалі сваю працу. Схіліўшыся над баразной, яны старанна капалі бульбачку, асноўны прадукт харчавання беларуса.

Я недзе чытала пра любімы дуб класіка польскай літаратуры Адама Міцкевіча, пад якім ён часта адпачываў. І раптам Міхась расказвае аб тым, што трохсотгадовы Міцкевічаў дуб спілілі і прадалі палякам, тыя нават аскялёпкі яго вывезлі ў Польшу. Гэта падзея так узрушыла паэта, што ён адгукнуўся на яе вершам "Міцкевічаў дуб". Слухаючы аповед Міхася, мне стала крыўдна за нас, беларусаў: не шануем мы сваю гістарычную спадчыну.

Выступы Міхася чаргаваліся з выступамі маладой, вельмі прыгожай і надзвычай таленавітай бардэсы Тацяны Матафонавай. Я, прызнацца, ніколі не чула такога па-анёльску прыгожага голасу. Яе чароўны спеў заставіў многіх праслязіцца.

Тацяна расказвала пра сваё знаёмства з паэтамі, на словы якіх яна пісала музыку. Асаблівы ўплыў на яе аказала творчасць Сяржука Сокалава-Воюша.

Я бываю на школьных імпрэзах, і мне вельмі балюча слухаць выступы настаўнікаў і вучняў на рускай мове. Са сцэны гучаць рускія песні, рускія вершы. Настаўнікі спасылаюцца на тое, што няма добрых беларускіх песень і вершаў. Выступленне Тацяны поўнасцю абвяргае гэта. Яна столькі праспявала цікавых дзіцячых беларускіх песен, што стала зразумела, што недахопу ў добрых дзіцячых песнях няма.

Напрыканцы вечарыны слухачы выступілі са словамі падзякі. Эдмунд Гірын, былы дырэктар 5-й наваполацкай школы распавёў пра тое, як некалі дапамог Сяржуку Сокалаву-Воюшу, якога за палітыку выключылі з універсітэта і не бралі нідзе на працу. Ён узяў яго выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў старэйшых класах. Завуч даносіла дырэктару, што новы настаўнік нешта незразумелае творыць на ўроках.

Вялікім было яго здзіўленне, калі ён пабываў на уроку маладога настаўніка. Такога ён не бачыў нідзе: вучні спявалі, дэкламавалі, настаўнік іграў на гітары, былі ўсе занятыя працай. У хуткім часе настаўнікі многіх школ горада сталі прасіцца на ўрокі Сокалава-Воюша, каб пазнаёміцца з метадам яго працы.

Развітваючыся з гасцямі, я папрасіла Таню Матафонаву напісаць песні на словы Рыгора Барадуліна і падаравала ёй каталог прац беларускіх мастакоў, якія ўдзельнічалі ў драздовіцкіх плэнэрах. Каталаг адразу падпісалі мастакі Алесь Шыёнак і Яўген Ліпскі.

Ада Райчонак

**«НАША ЖИЗНЬ»** – общественная газета. Издатель – коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор – **Христафор Желяпов**. Вёрстка – **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.

**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# ЛЮДЗІ І ВОЗЕРА

Жыхары мястэчка Падсвілле Глыбоцкага раёну ўжо не першы год вядуць барацьбу за чысціню возера Алойсберг, на беразе якога знаходзяцца іх дамы.

Яны звярнуліся да прадстаўніка Палаты прадстаўнікоў, які з'яўляецца дэпутатам ад Глыбоцкай выбарчай акругі. Пад зваротам было сабрана больш 200 подпісаў мясцовых жахароў. Ініцыятарам збору подпісаў стаў мясцовы незалежны журналіст **Яўген Самсонаў**.

Нядаўна быў атрыманы афіцыйны адказ, падпісаны Міністрам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімірам Цалко, з якога вынікала, што вада ў возеры чыстая і таму пагрозы для здароў'я і навакольнага асяроддзя не ўяўляе.

– Нават піць з возера магчыма, – сумна жартуюць мясцовыя жыхары і дадаюць: – Хай камісія, даследваўшая возера, прыязджаюць да нас летам купацца.

Жыхары кажуць, што на прыканцы красавіка 2011 у возеры адбылася масавая згуба рыбы. Глыбоцкая межраённая прыродаахоўчая інспекцыя запэўнівала, што згуба адбылася выключна ад перавышэння канцэнтрацыі кіслароду. А вось незалежныя эксперты сцвярджалі, што буйное памнажэнне мікраарганізмаў у вадзе было выклікана наяўнасцю павышанага ўтрымання стокаў з жывёлагадоўчага комплексу, якое прыналежыць Глыбокскаму мясакамбінату, а таксама забруджваннем вады Падсвільскім вінзаводам і Пліскім ільназаводам, якія знаходзяцца недалёка ад возера.

Арганізатары збора подпісаў вырашылі правесці сход жыхароў мястэчка, каб пазнаёміцца з афіцыянльным адказам з МІнску. Мясцовыя ўлады спачатку нічога не мелі супраць, нават прапанавалі пад сход памяшканне ў мясцовым Доме культуры. Аднакш неўзабаве іх рашэнне змянілася. Менавіта на 18 лістапада, дзень сходу, быў прызначаны выступ мясцовага калектыва самадзейнасці. Для сходу ўлады прапанавалі невялікую чытальную залю бібліятэкі, якая можа змесціць каля 20 чалавек.

Але перад непасрэдным пачаткам сустрэчы, у арганізатараў пачалі патрабаваць яшчэ нейкія дакументы, без якіх мерапрыемства лічылася бы несанкцыянаваным. Яўгену Самсонаву, які афіцыйна працуе ў Глыбокскім ЖКГ, раптам патэлефанаваў ідэолаг мясцовага прадпрыемства Леанід Корнышаў, зазначыўшы, калі Самсонаў прыйдзе на сход, адразу будзе звольнены. Журналіст рызыкаваць не стаў і перадаў дакументы прадпрымальніку Мар'яну Місевічу, які правёў у выніку сустрэчу.

У бібліятэцы сабралося больш за 20 чалавек, сярод якіх былі мясцовыя рыбакі, настаўнікі – усе тыя, хто быў не абыякавы да лёсу возера.

Прысутнічалі і прадстаўнікі мясцовай улады, якія сядзелі ў куце і маўчалі ажно да самага заканчэння сустрэчы. Толькі , калі сталі вырашаць, якую рэзалюцыю прыняць, раптам узяў слова начальнік інспекцыі прыродных рэсурсаў Мікалай Кміта, каб выказаць заклапочанасць станам вады ў возеры.

– Вось, што крыўдна: ЖКГ быў зроблены праэкт ачышчальных пабудоў для возера, але ніхто не дае грошай на іх пабудову. У адказе пазначана, што гэта плануецца толькі ў 2014-м годзе – падсумаваў чыноўнік.

Удзельнікі схода былі больш рашуча настроены . Мясцовы жыхар Сцяпан, які шмат гадоў жыў каля возера, паказаў фотаздымак, зроблены ў 1957 годзе. На фота – жывапісны пляж на беразе Алойсбергу ў цэнтры Падсвілля. Зараз у гэтым месцы свалка, усё зарасло, паўсюль шмат смецця.

"Я самастойна змагаўся за чысціню берага ў гэтым месцы. Стаў абкошваць яго. Хадзіў у ЖКГ, прасіў каб сметніцы набылі і ўсталявалі – чаго так і не адбылося. Самому прыйшлося бочку ставіць і ланцугом прымацаваў, каб не скралі", – кажа Сцяпан.

Людзі, не саромячыся, выказалі свае меркаванне: "Адказ, які мы атрымалі, лічым за адпіску. Патрабуем рэгулярнага маніторынгу стану вады і паскарэння пабудовы неабходных ачышчальных пабудоў".

*Паводле http://westki.info*

# СТВОРАНЫ АРГКАМІТЭТ ДАПАМГІ С. КАВАЛЕНКУ

У віцебскім Еўрапейскім клубе 30 снежня адбыўся сход мясцовых дэмакратычных актывістаў, на якім разглядаліся спосабы магчымай дапамогі актывісту КХП БНФ **Сяргею Каваленку**, які зараз знаходзіцца ў следчым ізалятары. Сход быў арганізаваны па ініцыятыве сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" **Паўла Севярынца**, які прыехаў дадому ў Віцебск, атрымаўшы трохдзённы адпачынак на "хіміі" ў вёсцы Куплін Брэсцкай вобласці.

Нагадаем, што ў 2010 годзе Каваленка вывесіў бел-чырвона-белы сцяг на навагодняй ёлцы ў Віцебску, атрымаў за гэта тры гады так званай «хатняй хіміі». Зараз яму пагражае турэмнае зняволенне нібыта за парушэнне рэжыму адбыцця ўмоўнага пакарання. У СІЗА Каваленка ўжо паўтары тыдні трымае галадоўку на знак пратэсту. На думку Севярынца, "Каваленка – гэта ўжо 15-ты палітвязень, які ёсць у Беларусі".

На сходзе абмяркоўваліся дыпламатычныя, праваабарончыя, міжнародныя, інфармацыйныя і фінансавыя захады дапамогі зняволенаму і ягонай сям'і. Чарговае судовае пасяджэнне па справе Каваленкі пройдзе 12 студзеня. І віцебскія актывісты збіраюцца аказаць яму масавую падтрымку ў судзе.

*Яна Ільіна*

## ІНФАРМАЦЫЯ

У Віцебску працуе Еўрапейскі Інфармацыйны цэнтр. Жыхары горада могуць атрымаць неабходную інфармацыю пра Еўразьвяз і дзейнасьць інстытутаў ЕЗ кожныя чацьвер з 15.00 да 19.00, суботу з 12.00 да 18.00, нядзелю з 11.00 да 17.00. Запрашаем на вул.1-ю Сенненскую, д.5. Кантактны тэл. 27-23-39

# ДАЧАКАЛІСЯ АДКАЗУ

**Віцебскія праваабаронцы дачакаліся адказу на свае рэкамэндацыі па паляпшэньні працы судоў.**

Раней паведамлялася пра рэакцыю віцебскіх праваабаронцаў на прапанову Вярхоўнага суду па маніторынгу судовай сыстэмы. Яны накіравалі ў найвышэйшую судовую ўстанову дзяржавы свае рэкамэндацыі па паляпшэньні працы судоў. Вярхоўны суд ня стаў разглядаць гэтыя рэкамэндацыі, паведаміўшы, што даслаў іх старшыні Віцебскага абласнога суду. І вось, нарэшце, праваабаронцы дачакаліся хоць нейкага адказу на свае рэкамэндацыі. Адказ прыйшоў зь Віцебскага ўпраўленьня юстыцыі.

У атрыманым праваабаронцамі лісьце гаворыцца: "Ваша інфармацыя аб некаторых пытаньнях працы раённых (гарадзкіх) судоў Віцебскай вобласьці прынятая да ведама. Галоўным упраўленьнем юстыцыі Віцаблвыканкаму ў межах сваіх паўнамоцтваў і выдаткаванага Міністэрствам юстыцыі фінансаваньня робяцца захады па арганізацыйным і матэрыяльна-тэхнічным забесьпячэньні дзейнасьці раённых (гарадзкіх) судоў Віцебскай вобласьці".

Адказ Упраўленьня юстыцыі праваабаронцы лічаць адпіскай. "Гэты адказ павярхоўны па сутнасьці, - сьцьвярджае **Леанід Сьвецік**, ініцыятар звароту ў Вярхоўны суд. - Абвешчаны Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь маніторынг у межах меркаванай рэформы судовай сыстэмы краіны зьяўляецца, на жаль, толькі фармальнасьцю".

*"За правы чалавека"*
*http://spring96.org/be/news/48563*

# ДЛЯ ЗМЕНАЎ У ВЫБАРЧЫ КОДЭКС

**Актывісты Віцебску будуць зьбіраць подпісы грамадзян для зьмяненьня Выбарчага кодэксу**

Партыйныя і грамадзкія актывісты, а таксама праваабаронцы Віцебску чынна далучаюцца да ініцыятыўнай групы па ўнясеньні зьменаў у Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь. Адной зь першых у горадзе над Дзьвіной увайшла у створаную групу **Алена Фаміна**, даверанная асоба кандыдата ў прэзыдэнты на выбарах 2010 году **Дзьмітрыя Вуса**. Менавіта Дзьмітры Вус зьяўляецца пачынальнікам фармаваньня ініцыятыўнай групы, якая будзе зьбіраць подпісы за зьмены ў выбарчае заканадаўства. У склад ініцыятыўнай групы ўжо ўвайшло каля 1000 актывістаў з усёй краіны.

Пасьля таго, як ініцыятыўная група будзе зарэгістраваная, яе ўдзельнікі павінны сабраць сама меней 50 тысяч подпісаў грамадзян за ўнясеньне зьменаў у Выбарчы кодэкс. Калі неабходныя подпісы будуць сабраныя, прапанаваныя экс-кандыдатам у прэзыдэнты Вусам зьмены ў закон набудуць статус законапраекту.

Унесьці зьмены і дадаткі мяркуецца ў тры артыкулы выбарчага кодэксу. Гэтымі зьменамі і дадаткамі прапануецца на заканадаўчым узроўню замацаваць права кожнага незалежнага кандыдата накіроўваць сваіх прадстаўнікоў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі. Прадстаўнікі кандыдатаў мусяць стаць паўнапраўнымі сябрамі гэтых камісіяў, браць удзел у падліку бюлетэняў, падпісваць пратаколы. Каб пазьбегнуць фальсыфікацыяў праз укід бюлетэняў, усе бюлетэні, згодна з прапанаванымі зьменамі ў выбарчы кодэкс, павінны быць папярэдне падпісаныя кожным зь сябраў участковых камісіяў.

Віцебскія праваабаронцы станоўча ацэньваюць ініцыятыву Дзьмітрыя Вуса. Яны кажуць, што прапанаваныя ім зьмены ў Выбарчы кодэкс паспрыяюць таму, што выбары стануць больш празрыстымі і сумленнымі, наблізяцца да стандартаў, прынятых у дэмакратычным сьвеце.

# КАЛІ СТРАЦІЦЕ ДЗЯРЖАВУ, ШТО ЗАСТАНЕЦЦА ДЗЕЦЯМ І ЎНУКАМ?

**Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла напярэдадні 2012 году зьвярнулася зь лістом да беларускага народу.**

Івонка Сурвіла піша: «Дарагія суродзічы, напярэдадні сьвятаў, калі людзі традыцыйна жадаюць адзін аднаму шчасьця, здароўя і ўсялякіх дабротаў у жыцьці, пішу да вас з трывогай у сэрцы.

За 2011 год чалавек, які называе сябе прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь, даказаў, што Беларусь для яго нішто іншае, як лёгка здабытае казённае дабро. Распараджаецца ён гэтым дабром так непрадказальна і ставіцца да беларускага народу, уласьніка гэтага дабра, з такім цынізмам, што ствараецца ўражаньне, што ён выконвае загады, якія нават не адпавядаюць ягоным уласным інтарэсам. За некалькі чырвонцаў прадаў душу, штораз глыбей лезе ў балота, у якое ўсходнія „дабрадзеі" пакрысе яго сьпіхваюць».

Старшыня Рады БНР згадвае апошнія падзеі, якія, як яна перакананая, ставяць пад пагрозу сувэрэнітэт Беларусі: «Падзеі 19-га сьнежня 2010 г., арышт апанэнтаў, маскоўскія дамовы наконт нібыта „таннага" газу ўзамен на найкаштоўнейшую маёмасьць нашага краю — газавыя трубаправоды ў Эўропу, новыя „саюзныя" структуры, у якіх Беларусь будзе мець аж 6 адсоткаў галасоў (!!!), дазвол Расеі ізноў карыстацца нашай зямлёй для рэалізацыі сваіх ядзерных задумаў, нягледзячы на жаданьне народу пазбыцца гэтае пагрозы, выпрабаваньне цярплівасьці народу стварэньнем новых сілавых структураў — каб змагацца супраць каго? Выглядае, што ўсё робіцца, каб сьцерці Беларусь з паверхні Зямлі. А нашыя бедныя людзі яшчэ ўсё думаюць, што гэта робіцца для іх... І чакаюць».

Івонка Сурвіла працягвае: «Прыгадваюцца генацыды, калі чалавецтва таксама чакала, склаўшы рукі, што нешта зьменіцца... Дарагія суродзічы, нішто ня зьменіцца бяз вас. А калі страціце сваю дзяржаву, што застанецца вашым дзецям і ўнукам? Ізноў маскоўская калёнія, забраны і зьнішчаны край, дзе яны будуць нічым іншым, як працоўнай сілай для чужых „сатрапаў"».

Радыё "Свабода"